


# Навіны

Беларускага Народнага Фронту

5'1991

«АДРАДЖЭНЬНЕ»

Кошт 59 кап.






**с.8** Душабойка ў Ігуменскім лесе

**с.2** Ліпеньскі Сойм БНФ

**с.4** Арменію ўратуе дыяспара





**с.5** Паўнамоцтвы Генадзя Грушавога спыненыя


## Кожны дзень жонка Валерыя Сядова Ірына з дачкой Насьцяй прыходзілі да сьледчага ізалятару па вул. Валадарскага, 2, але перадачы ў іх не прымалі.



Фота Ул.Панады.

### АРЫШТ

7 траўня пастановаю Пракуратуры БССР №257090, падпісанай кіраўніком сьледчае групы старшым саветнікам юстыцыі В.Собалевым, быў арыштаваны й зьмешчаны ў сьледчы ізалятар (СІЗО) актыўны ўдзельнік руху Беларускага Народнага Фронту, супрацоўнік нашае газэты Валеры Сядоў. За ўдзел у антыкамуністычным мітынгу, які адбыўся ў Менску 7 лістапада мінулага году, В.Сядову інкрымінуюць 2 артыкулы. Паводле артыкула 186 КК БССР В.Сядоў абвінавачваецца ў «актыўным удзеле ў групавых дзеяньнях, якія груба парушылі грамадзкі парадак» і паводле артыкула 201 ч.2 КК БССР – ў «публічнай непавазе да грамадзтва й агульнапрызнаных нормаў маралі».

На думку Пракуратуры БССР, В.Сядоў вінаваты ў тым, што падчас мітынгу, «праявіўшы цынізм і асаблівую дзёрзкасьць, прымацаваў да помніка У.І.Леніну пудзіла ў выглядзе надзетае на крыж ватоўкі», чым «зьняважыў гістарычны помнік манумэнтальнага мастацтва, зьняважыў грамадзкую маральнасьць, праявіў яўную непавагу да народных традыцыяў і гісторыі Бацькаўшчыны».

У пастанове на арышт пракуратура сфальсіфікавала мейсца працы Сядова: было напісана, што ён «беспрацоўны».

### ПЕРШАПРЫЧЫНА

7 лістапада 1990 у Менску па ініцыятыве БНФ быў праведзены антыкамуністычны мітынг-шэсьце, падчас якога некалькі дзесяткаў тысячаў людзей прайшлі па Ленінскім праспэкце да пляца Леніна зь лёзунгамі антытаталітарнага зьместу, а таксама сымболямі ленінска-сталінскага тэрору: пудзіламі нкусаўцаў, вязьняў ГУЛАГу, будаўнікоў сацыялізму ў гумовых ботах і ватоўках, муляжамі шыбеніцаў з надпісамі «сацыялістычны выбар» і «камуністычная пэрспэктыва». Усе гэтыя сымболі рэжыму, якія пазьней атрымалі назву «дары Леніну», у ходзе мітынгу былі ўскладзеныя да помніка заснавальніку бальшавіцкае дзяржавы.

Падчас «вяртаньня дароў» узьнікла ініцыяваная міліцыяй сутычка. На заклікі Зянона Пазьняка да міліцыянтаў утварыць жывы калідор і даць магчымасьць некальким чалавекам прайсьці да помніка, ахоўнікі правапарадку кінуліся на натоўп, які ў сваю чаргу, справакаваны міліцыяй,ірвануўся да помніка. Узьнікла штурханіна.

### «АРГАНІЗАЦЫЯ НАРОДНАГА ГНЕВУ»

Сам факт правядзеньня антыкамуністычнага мітынгу, які дарэчы быў дазволены ўладамі, не даваў дастатковых падставаў для адкрыцьця крымінальнае справы. Але, маючы намер адбіць у беларускага народу ахвоту змагацца з таталітарызмам, а таксама разьлічваючы паквітацца з БНФ, ЦК КПБ праз партыйны друк распачаў прапагандысцкую кампанію супроць антыкамунізму й антыкамуністаў.

На грамадзкую сьвядомасьць абрынуўся цэлы шквал «лістоў працоўных», часта падпісаных сакратарымі партыйных арганізацыяў КПСС, з патрабаваньнямі хуткага й суровага пакараньня вераадступнікаў. Адным з галоўных «народных абвінаваўцаў» стаў блізкі да «Памяти» старшыня Беларускага хрысьціянскага саюзу А.Насенка, які падчас афіцыйнага ўслаўленьня чарговае гадавіны бальшавіцкага перавароту, якое папярэднічала мітынгу БНФ, стаяў на ўрадавай трыбуне побач са старшынём ВС БССР Мікалаем Дземянцеем, а зараз адбывае турэмнае пакараньне за крадзеж і махлярства.

(Працяг на стар.3)

*Санкцыяваная ЦК КПБ справа Валерыя Сядова набыла нечаканы для яе арганізатараў паварот. Абвінавачваньні Фронту ў зьнявазе сымболяў марксізму-ленінізму адыйшлі на другі плян. Ліст В.Сядова ў пасольства ЗША, а таксама вынікі дэпутацкае праверкі ўмоваў утрыманьня ў СІЗО №1, якая была праведзеная З.Пазьняком і Я.Новікавым, прымусілі зьвярнуць увагу на «беспредел», які твораць улады ў дачыненьні да зьмешчаных у сьледчы ізалятар падсьледных. Выглядае на тое, што менавіта пракуратуры давядзецца адказваць за парушэньні правоў чалавека.*

# СЕМДЗЕСЯТ ДЗЁН У СІЗО

РЭПРЭСІІ





ДОСЬВЕД

# Шлях да «рынкавага заробку»




Малюнак Мікалая ЧАРКАСАВА

*Падчас красавіцкіх мітынгаў і страйкаў на Беларусі прагучаў лёзунг «рынкавым цэнам — рынкавыя заробкі». Аўтар гэтага артыкула кандыдат эканамічных навук Любоў Шаламніцкая лічыць, што праблему «рынкавага заробку» ня вырашыць заплянаванае на другое паўгодзьдзе 1991 увядзеньне «новае рэспубліканскае тарыфнае сістэмы» ў вытворчых галінах. Новыя тарыфы «падцягнуць» аплату працы да нядаўна падвышанага ўзроўню ў невытворчай сфэры, а затым, як і раней, давядзецца ісьці па зачараваным коле, г.зн. ізноў вырашаць пытаньні аплаты працы ў галінах аховы здароўя, народнае адукацыі й культуры.*

Як разарваць гэтае кола «дзяржаўнае дабрачыннасьці»? Як зрабіць так, каб работнік — уласьнік працоўнае сілы — ня толькі шляхам страйкаў, але й у пэўных канструктыўных формах мог дамовіцца з наймальнікам адносна кошту свае працы?

Дзеля гэтага ў Рэспубліцы павінен існаваць рынкавы мэханізм вырашэньня пытаньняў пра ўмовы працы й аплату. Пры гэтым можа быць выкарыстаны досьвед сацыяльнага партнэрства ў замежных краінах і першы досьвед падрыхтоўкі й заключэньня калектыўных пагадненьняў, які ёсьць у СССР.

У дзяржавах з разьвітай рынкавай эканомікаю бакі, якія заключаюць пагадненьне, — гэта, як звычай, уласьнікі, іх аб'яднаньні (саюзы прадпрымальнікаў) і прафсаюзы як аб'яднаньні працоўных — выразьнікі іхніх інтарэсаў. Пасрэднікам пры перамовах ці іх кіраўніком выступае ўрад, напрыклад, у асобе міністра эканомікі альбо міністра працы.

Тарыфныя структуры функцыянуюць на ўсіх узроўнях — ад верхняга (дзяржаўнага) да фірмы. Адпаведна перамовы вядуцца ў тры этапы. На першым, вельмі важным, этапе перамоваў іх удзельнікі — урад, аб'яднаньні прадпрымальнікаў і прафсаюзы — дамаўляюцца адносна тэмпаў росту заробнае платы. Гэтаму этапу папярэднічае дасканалы аналіз эканамічнае сітуацыі ў краіне. Яна абмяркоўваецца на сходах з удзелам больш шырокага кола прадстаўнікоў ураду й грамадзкасьці. Аб'ект абмеркаваньня — стан эканомікі, пэрспэктывы вытворчасьці, інвэстыцыяў, занятасьці, інфляцыі й магчымы ўплыў умоваў калектыўных пагадненьняў па заробнай плаце на гэтыя працэсы. У выніку падпісваецца гэтак званае «Нацыянальнае Пагадненьне».

«Нацыянальнае Пагадненьне» пра ўзроўні заробнае платы — абавязковая ўмова для прадпрыемстваў усіх формаў уласнасьці, яно дыктуе разглядаць гэтыя ўзроўні як мінімальную аплату ў залежнасьці ад кваліфікацыі работнікаў і складанасьці іх працы. Гэта своеасаблівая гарантыя, але пры ўмове выкананьня заданьня й нормы працы. У тых краінах, дзе існуе закон аб індэксацыі прыбыткаў, пагадненьне падпісваецца звычайна на трохгадовы тэрмін; а, напрыклад, у Нямеччыне ці Аўстрыі, дзе заробак не індэксуецца ў залежнасьці ад тэмпаў інфляцыі, рост цэнаў улічваецца ў заробку шляхам штогадовых пагадненьняў пра падвышэньне зарплаты. Нагадаем, у перамовах бяруць удзел прадстаўнікі ўсіх галінаў вытворчасьці.

На наступным этапе аб'яднаньні ўласьнікаў кожнае галіны й адпаведных прафсаюзаў вырашаюць свае праблемы працы й заробку.

На ўзроўні фірмы прадстаўнікі рабочых і адміністрацыя заключаюць калектыўныя пагадненьні. Большасьць спэцыялістаў і кіраўнікоў працуюць па канкрэтнай сістэме найму. Па сутнасьці, на гэтых узроўнях ідзе сапраўдны гандаль з-за цаны працоўнае сілы й іншых умоваў найму. Пры гэтым аплата працы часта робіцца пэрсаніфікаванай і ўздымаецца вышэй за гарантаваную «Нацыянальным Пагадненьнем». Бакі, якія вядуць перамовы, імкнуцца атрымаць максімальную інфармацыю пра рынак працы. Дзеля гэтага існуюць тарыфныя рэестры, спэцыяльныя цэнтры — клюбы, якія маюць пэўныя зьвесткі пра рынак працы. Вызначаны мінімальны ўзровень заробку, унесены ў выдаткі, павялічваецца ў залежнасьці ад кан'юнктуры рынку, напрыклад, у Нямеччыне ад 6 да 40 і болей працэнтаў.

У нас, на Беларусі й у СССР, існуе практычна адзін наймальнік — дзяржава (калі не лічыць не такія ўжо шматлікія каапэратывы й малыя прадпрыемствы). Адсюль пасьлядоўнасьць заключэньня тарыфных пагадненьняў ідзе зьнізу ўгору. Да разьдзяржаўленьня ўласнасьці ўрад вымушаны выступаць у двух абліччах — наймальніка й гаранта мінімальнае мяжы заробку па кваліфікацыі. На дзяржаву ўскладаецца нялёгкая задача праводзіць цэнтралізаваную палітыку зарплаты, удзельнічаць у рашэньні праблемаў аплаты працы ў кожнай галіне, стрымліваць інфляцыю, непазьбежную пры такой расстаноўцы сілаў. Сітуацыя зьменіцца са зьяўленьнем на рынку працы прыватных уласьнікаў, з удзелам усіх галінаў вытворчасьці ў калектыўных перамовах. Тады ўрад будзе выконваць сваю натуральную ролю — пасрэдніка паміж наймальнікам і прафсаюзам.

Першыя крокі па фармаваньні рынкавага рэгуляваньня цэнаў на рабочую сілу ў СССР ужо зробленыя, але толькі ў тых галінах, дзе прайшлі масавыя працяглыя страйкі. Прыклад — вугальная прамысловасьць. Страйкавыя камітэты шахцёраў падрыхтавалі дакумэнт — Генэральнае пагадненьне паміж урадам СССР і Канфэдэрацыяй незалежных прафсаюзаў гарнякоў, у якім пытаньні падвышэньня заробку вырашаюцца з улікам кваліфікацыі й прафэсіяў рабочых. Сфармулявана патрабаваньне пра сувязь заробку з коштам «спажывецкага кошыка»: з улікам яго долі вызначаецца базавая мінімальная стаўка па кожнай групе рабочых. У дакумэнце прадугледжваюцца суадносіны ў зарплаце, вызначаныя паводле каэфіцыентаў ад 0,8 да 1,3 у залежнасьці ад узроўню кваліфікацыі. Фактычна, у гэтым падрыхтаваным і прынятым па прапанове незалежных прафсаюзаў пагадненьні прадугледжваецца ўзмацненьне дыфэрэнцыяцыі аплаты працы ў залежнасьці ад кваліфікацыі працоўнае сілы й складанасьці працы.

Важна, каб з падобнымі канструктыўнымі праектамі выступілі прафсаюзы ўсіх галінаў вытворчасьці, прычым гэтыя прапановы мусяць быць аб'яднаныя ў часе, каб бакі маглі сумесна вырашаць пытаньні міжгаліновае, міжпрафэсійнае розьніцы ў аплаце працы.

Апрача тарыфна-пагадняльнага мэханізму, трэба мець на ўвазе яшчэ адну вельмі важную акалічнасьць, характэрную для рынкавае эканомікі: заробак павінен складацца з кошту (цаны) працоўнае сілы, выплатаў з прыбытку (якія таксама абумоўліваюцца ў пагадненьнях), а таксама, пры наяўнасьці ўкладаньняў капіталу, выплатаў з прадпрымальніцкага прыбытку. У нашай сістэме аплаты працы ў сувязі з гэтым трэба разабрацца са шматлікімі прэміямі, якія часьцяком не зьвязаныя з вынікамі працы, ня маюць рэальнае крыніцы аплаты. Між тым, у пераходны пэрыяд яны могуць служыць формаю пераразьмеркаваньня прыбытку на асабістае спажываньне, што шкодзіць доўгатэрміноваму разьвіцьцю прадпрыемства.

Такім чынам, працоўныя праз сваіх прадстаўнікоў павінны ўдзельнічаць у вызначэньні цаны свае рабочае сілы пры дапамозе адпаведнага мэханізму. Важнай умоваю дзейнасьці гэтага мэханізму ёсьць існаваньне рэальных уласнікаў: прыватных, калектыўных, дзяржавы й канкурэнцыі паміж імі.

**Любоў ШАЛАМНІЦКАЯ,**
**кандыдат эканамічных навук.**

ВЁСКА



## Яўген ЛУГІН: РЭСПУБЛІКУ НАКОРМІЦЬ ПРЫВАТНІК

*Я.Лугін нарадзіўся ў 1935 у вёсцы Барбарова Глускага раёну Магілёўскае вобл. Да 1986 служыў у войску. Зараз былы падпалкоўнік узначальвае Сялянскую партыю Беларусі.*

**«Навіны»: У якіх умовах была створаная Сялянская партыя?**

**Яўген Лугін:** Камуністы найбольш пахіснулі свой аўтарытэт тым, што за дзесяцігодзьдзі кіраваньня не накармілі народ. Пасьля звальненьня з войска, я вырашыў вярнуцца на радзіму, каб займацца сельскай гаспадаркаю. Прыехаў у родную вёску, пабудаваў дом, стварыў сельскагаспадарчы каапэратыў. І сутыкнуўся з тым, што на вёсцы адзіная арганізаваная сіла — партыйная намэнклятура ды калгасны апарат, якія выступаюць супраць усялякіх зьменаў. Калі рэформам супрацьстаіць арганізаваная сіла, ёй трэба супрацьпаставіць арганізаваную палітычную сілу — сялянскую партыю.

23 лютага гэтая ідэя ўпершыню прагучала на зьезьдзе Сялянскага Саюзу Беларусі. Потым спатрэбіўся час для падрыхтоўкі Устаноўчага зьезду.

**«Навіны»: Сялянская партыя — арганізацыя прыватных уласьнікаў зямлі?**

**Я.Л.:** Мы абвясьцілі сваёй мэтаю адраджэньне вёскі, адраджэньне сялянства. Нашая сацыяльная база — уласьнікі зямлі, але ў статуце партыі пазначана: яе сябрам можа быць кожны грамадзянін Беларусі. Мы хочам, каб у гэтую работу ўключыліся ўсе слаі грамадзтва. Мы за прыватную ўласнасьць на зямлю, але не патрабуем тэрміновага скасаваньня калгасаў. Сялянская партыя лічыць, што калгасы павінны зрабіцца тым, чым яны меліся быць ад пачатку — сельскагаспадарчымі каапэратывамі. Іх удзельнікі павінны стаць гаспадарамі на зямлі й самі распараджацца плёнам свае працы.

Сёньня прыблізная лічба прыхільнікаў партыі — звыш тысячы чалавек па ўсёй Рэспубліцы.

**«Навіны»: Вы дапамагаеце сялянам атрымаць зямлю й тэхніку?**

**Я.Л.:** Я ведаю шмат людзей, якія атрымалі зямлю менавіта дзякуючы свайму ўдзелу ў СПБ. Мы гаворым людзям так: пішыце заяву ў сельсавет, рэгіструйце й чакайце месяц. Калі праз месяц нічога ня вырашыца, зьвяртайцеся ў суд. Мы гатовыя аказаць юрыдычную падтрымку.

Пытаньні з тэхнікаю вырашаюцца праз Сялянскі Саюз Беларусі. У адпаведнасьці з рашэньнем Саўміну ён цэнтралізавана атрымлівае сельскагаспадарчую тэхніку й разьмяркоўвае яе.

**«Навіны»: СПБ і ССБ — паралельныя арганізацыі?**

**Я.Л.:** Сялянскі Саюз фармаваўся як прафэсійная арганізацыя землеўладальнікаў: фэрмэраў, каапэратараў, арандатараў. Ён створаны дзеля вырашэньня штодзённых пытаньняў. Сялянская партыя — больш палітызаваная арганізацыя. Яна мае мэтаю ня толькі адраджэньне вёскі, але й зьмяненьне дзяржаўнага заканадаўства.

**«Навіны»: Вы падтрымліваеце сувязі зь іншымі арганізацыямі падобнага накірунку?**

**Я.Л.:** Існуе Саюз аграрыяў, у якім пераважна прадстаўленыя старшыні калгасаў, дырэктары саўгасаў. Гэтая арганізацыя створаная пры апякунстве КПБ дзеля захаваньня калгасаў і саўгасаў у іх сёньняшнім выглядзе. Гэта — палітыка мінулага дня, падтрымаць якую мы ня можам.

**«Навіны»: Якімі Вы бачыце пэрспэктывы разьвіцьця сельскае гаспадаркі Рэспублікі?**

**Я.Л.:** Рэспубліку могуць накарміць толькі сяляне, якія самі гаспадараць на сваёй зямлі. Менавіта за гэта мы выступаем.

**Запісаў Ул.ПАНАДА,**
**фота К.Войткі.**

ЗА МЕЖАМІ

# Армянская рэформа: апора на дыяспару

*Саюзны друк і цэнтральная тэлевізія часта падаюць досыць аднабаковыя й недакладаныя сьведчаньні пра становішча ў рэспубліках, асабліва ў тых, якія вырашылі не зьвязваць сябе саюзнай дамоваю. Таму мы вырашылі распачаць сэрыю публікацыяў пра эканамічныя й палітычныя становішча ў гэтых рэспубліках. Прычым, артыкулы будуць напісаныя «знутры».*

Прыватызацыя ўласнасьці ў той ці іншай форме непазьбежная для ўсіх рэспублікаў. Эканамічная рэформа ў Арменіі фактычна пачалася з прыняцьця Закону аб уласнасьці (1 сьнежня 1990), які абвясьціў роўнасьць усіх формаў уласнасьці. У студзенілютым 1991 была прынятая Пастанова Савету Міністраў пра малыя прадпрыемствы й Закон пра сялянскія й сялянскія калектыўныя гаспадаркі. Паводле гэтага закону, па рашэньні калгасьнікаў калектыўныя гаспадаркі расфармоўваюцца й зямля перадаецца ва ўласнасьць сялянаў. На сёньняшні дзень у шэрагу раёнаў падзел зямлі ўжо скончаны, у іншых яшчэ працягваецца. Пакуль зарана рабіць высновы, але відавочна, што стаўленьне сялянаў да працы карэнным чынам зьмянілася.

> **Даведка:**
> тэрыторыя Армянскае Рэспублікі — 29,8 тыс. км$^2$. Насельніцтва — 3 млн 350 тыс. Гарадзкое насельніцтва — 70%. Армяне — 80%

Такая радыкальная зямельная рэформа мае й свае адмоўныя бакі. Перш за ўсё з-за скрайняга малазямельля падзел сельскагаспадарчых угодзьдзяў прывёў да значных стратаў зямлі, якая пайшла на межы ды шляхі да надзелаў. Акрамя таго, дробныя надзелы часта ня будуць забясьпечваць сваім гаспадарам дастатковых сродкаў для існаваньня.

Прапаноўваліся й альтэрнатыўныя варыянты зямельнае рэформы, пазбаўленыя гэтых недахопаў, але ў цяперашніх сацыяльных і палітычных умовах урад абраў менавіта гэты шлях, каб у кароткі тэрмін дасягнуць эканамічных і палітычных зьменаў.

Што датычыць прыватызацыі ў гандлі й грамадзкім харчаваньні, дык першыя крокі можна лічыць задавальняючымі. Прыватызацыя 11 крамаў прынесла ў дзяржаўную скарбонку 8 млн рублёў. У выпадках, калі ў прыватызацыйных аўкцыёнах бралі ўдзел калектывы прадпрыемстваў, ім рабілася скідка у памеры траціны ад агульнага кошту.

Цяпер урад рэспублікі працуе над палажэньнем аб дзяржаўных акцыянэрных прадпрыемствах, якія будуць першай спробаю ў справе разьдзяржаўленьня й прыватызацыі ў прамысловасьці. Апублікаваныя ў лютым «Асновы прыватызацыі ў Рэспубліцы Арменія», зыходзячы з тыпу й значэньня аб'ектаў, прадугледжваюць наступныя формы прыватызацыі:

—продаж аб'екту (ці яго часткі) з аднachаснай ці растэрмінаванай аплатаю кошту;

—продаж каштоўных папераў;

—безпазыкавая перадача асобных аб'ектаў дзяржаўнае маёмасьці;

—арэнда аб'екту з наданьнем арандатару права пераважнага выкупу аб'екту.

Гаворачы пра праблемы, якія стаяць сёньня перад Арменіяй, у першую чаргу трэба вылучыць наступныя:

—зона бедзтва, якую пакінулі амаль усе будаўнікі «братніх» рэспублікаў, і якой цэнтар «забыўся» выдзеліць 13 млрд рублёў разрэкламаванае на ўвесь сьвет дапамогі;

—становішча (у тым ліку эканамічнае) 200-тысячнага армянскага насельніцтва Нагорнага Карабаху ды суседніх зь ім раёнаў;

—практычна бесьперапынная блякада й рабаўніцтва транспарту, які кіруецца ў Арменію.

Гэтым адмоўным зьявам рэспубліка можа супрацьпаставіць хуткія тэмпы прыватызацыі, супрацоўніцтва з армянскай дыяспараю, традыцыйную працавітасьць і прадпрымальніцкі дух.

Арменія мае вялікія спадзяваньні, зьвязаныя з замежным капіталам. Але калі, напрыклад, Паўднёвая Карэя карысталася дапамогаю ЗША, Міжнароднага банку рэканструкцыі й разьвіцьця, а таксама Міжнароднага валютнага фонду, дык Арменія, падобна, можа разьлічваць пераважна на дапамогу армянскае дыяспары.

У сакавіку 1991 у Лёс-Анджэлясе адбылася канфэрэнцыя, прысьвечаная эканамічнай рэформе ў Арменіі, а ў траўні звыш 200 бізнэсмэнаў-армянаў з 30 краінаў сьвету прыехалі на радзіму, каб наладзіць непасрэдныя сувязі зь мясцовымі камэрсантамі. Вынікам канфэрэнцыі стала ўтварэньне Асацыяцыі армянскіх бізнэсмэнаў, у далейшым плянуецца фундацыя Армянскага банку. Сёньня ў Арменіі зарэгістравана каля 50 сумесных прадпрыемстваў, што нельга лічыць дастатковым, улічваючы тое, што іхняя рэгістрацыя зьдзяйсьнялася Міністэрствамі фінансаў і зьнешнеэканамічных сувязяў. Ужо выпрабляюць прадукцыю такія СП, як «Армэнтой» (ЗША) — вытворчасьць лялек, «Апмід—Дыяманд» (Італія) — здабыча натуральнага камяню, вытворчасьць дыямэнтавых прыладаў, «Совюгінбуд» (Югаславія) — праектаваньне, будаўніцтва, «Мікраграф» (Вялікабрытанія) — распрацоўка камп'ютарных праграмаў, «Эрабіён» (Францыя) — вытворчасьць вылічальнае тэхнікі ды інш.

Непрадказальнасьць далейшага разьвіцьця падзеяў у канаючай Савецкай імпэрыі — галоўная прычына асьцярожнасьці замежных прадпрымальнікаў. Як вядома, пасьля землятрусу 1988 па ўсім сьвеце быў зарганізаваны збор сродкаў для аднаўленьня зоны бедзтва. Дагэтуль гэтыя сумы знаходзяцца ў замежных банках і будуць прадстаўленыя толькі пад канкрэтныя праграмы. Міжнародны валютны фонд і Міжнародны банк рэканструкцыі й разьвіцьця таксама выдае пазыкі паводле гэтага прынцыпу. Такім чынам, эканамічная праграма — ня мэта, а неабходны сродак міжнароднага супрацоўніцтва.

Яшчэ адна праблема, зь якой сутыкаюцца ўсе саюзныя рэспублікі — гэта адсутнасьць валюты, без чаго немагчыма спыніць інфляцыю. Варта цэнтру ўключыць друкарскі станок, і ўсе намаганьні рэспублік па стабілізацыі рынку страцяць усялякі сэнс. Невыпадкова балтыйскія краіны ўзялі курс на ўвядзеньне ўласнае валюты. У Арменіі таксама ўсьведамляюць неабходнасьць падобнага кроку, і нават выказваюцца прапановы, што на мяжы 1993–94 будзе магчымае ўвядзеньне ў рэспубліцы ўласнае грашовае адзінкі. Несумненна, што працэс эканамічнага разьмежаваньня рэспублік будзе працягвацца да таго часу, пакуль цэнтар не адмовіцца ад імпэрскіх амбіцыяў ды «сацыялістычных заваёваў». Застаецца толькі спадзявацца, што новую праграму выйсьця з крызісу Г.Яўлінскага не чакае лёс «500 дзён», і што яе канчатковы варыянт будзе ўлічваць інтарэсы ўсіх без выключэньня рэспублікаў. У адваротным выпадку магчымасьць існаваньня Саюзу нават у выглядзе канфэдэрацыі будзе вельмі спрэчнай.

**Арам МЕЛКАНЯН,**
**Ін-т эканомікі АН Арменіі.**

Ганарар аўтар просіць пералічыць у камітэт БНФ «Дзеці Чарнобыля».





ДАБРАЧЫННАСЬЦЬ

*У чэрвені Беларусь ізноў наведаў Апостальскі візітар для ўсіх беларусаў замежжа айцец Аляксандар Надсон, які адзін зь першых на эміграцыі адгукнуўся на Чарнобыльскую трагедыю нашага народу. Гэта ўжо 4-ы прыезд а.Аляксандра на Бацькаўшчыну.*



# Зноў на Бацькаўшчыне

Сёньня арганізаваныя а.Аляксандрам і асабіста канваяваныя на Беларусь транспарты зь лекамі супроць лейкеміі сталі істотнай дапамогаю мэдыкам Гомельскае й Менскае абласьцей.

На гэты раз ізноў былі прывезеныя вельмі дарагія лекі супроць лейкеміі, шпрыцы й вітаміны. Транспарт каштаваў 15 тысячаў фунтаў і быў разьмеркаваны ў шпіталёх Менску, Хойнікаў, Брагіну й Бараўлянаў.

На думку а.Надсона, становішча ў справе выратаваньня дзяцей ў раёнах Гомельшчыны, у прыватнасьці на Брагіншчыне, пагоршылася. «Там няма будучыні», – сказаў ён. У Менску й Гомелі цяпер намагаюцца пабудаваць мэдычныя цэнтры дзеля лячэньня ахвяраў катастрофы. Аднак у Гомелі гэтая справа пакуль што знаходзіцца толькі на ўзроўні размоваў, і невядома, калі яна будзе рэалізаваная. Тым часам, працэнт хворых вельмі вялікі, няма ня тое, што цэнтру, а нават лекаў. «Калі-б было крыху больш добрае волі, – гаворыць а.Надсон, – дзейнічаць было-б прасьцей, было-б крыху менш камітэтаў і крыху больш супрацоўніцтва».

Не наладжаны адпаведны інфармацыйны абмен зь лекарамі, каб прывозіліся сапраўды патрэбныя рэчы. Часам, людзі, якія арганізоўваюць дапамогу, становяцца ахвярамі недасьведчанасьці й дасылаюць зусім непатрэбнае. «Павінны быць нейкі плян дапамогі, – лічыць а.Надсон. – Мы, напрыклад, падчас разьмеркаваньня дабрачыннага грузу просім у дактароў сьпіс новых патрэбаў і згодна зь ім зьбіраем наступны транспарт. Такім чынам мы не марнуем ні часу, ні грошай».

Што датычыцца кантактаў з афіцыйнымі савецкімі ўладамі, дык у гэты раз іх нё было з прычыны адсутнасьці часу. А.Надсон сьпяшаецца ў Ангельшчыну, каб яшчэ раз удакладніць, ці ўсё падрыхтавана для прыезду на аздараўленьне беларускіх дзетак. І хаця ў камітэце а.Надсона працуе 5 чалавек, пакуль што асноўны цяжар працы выконвае а.Надсон. Іншыя дапамагаюць наколькі магчыма, вельмі шмат робіць сп.Дзінглі.

Ужо на пачатку ліпеня ў Ангельшчыну прыедзе першая з 6 (78 чалавек) зарганізаваных а.Надсонам, фондам «Дзеці Чарнобыля» й Лігаю жанчын групаў чарнобыльскіх дзяцей. Імі будзе апекавацца Нацыянальная асацыяцыя каталіцкіх сем'яў Ангельшчыны. Дзеці будуць разьмешчаныя па двое пераважна ў шматдзетных сем'ях. «Такія аздараўленчыя паездкі, – лічыць а.Надсон, – маюць вялікі плён, паводле словаў брагінскіх мэдыкаў, нават тыднёвы выезд з зоны дае эфэкт».

У Ангельшчыне ініцыятыва а.Надсона карыстаецца вялікай падтрымкаю грамадзкасьці. Аднак дзеля посьпеху ў справе дапамогі ахвярам Чарнобыля патрэбная вялікая праца ў галіне інфармацыі. Калі гэтага не рабіць, людзі ня вераць або забываюць. «Колькасьць ахвяраваньняў павялічваецца пасьля кожнага інтэрвію са мною, – кажа а.Надсон, – пасьля кожнага артыкула».

Наступную дабрачынную паездку на Бацькаўшчыну а.Надсон запланаваў на канец жніўня.

Разьвітваючыся зь Беларусьсю ён пажадаў суайчыньнікам, «каб Бог перадусім адвярнуў чарнобыльскую бяду, каб на тварах дзетак зьявілася ўсьмешка. Ну а другое, каб нарэшце пачаў дзейнічаць Закон аб мовах».

**І.Л.,**
**фота Ул.Панады.**

ЧАРНОБЫЛЬСКІ ТРЫБУНАЛ

# Ангельскія ахвяры радыяцыі падаюць у суд

*На 2-м Чарнобыльскім Трыбунале беларускі юрыст Сяргей Вінаградаў прапанаваў асобам, пацярпелым ад Чарнобыльскае катастрофы, прад'явіць судовыя іскі з патрабаваньнем кампэнсацыі за пашкоджанае здароўе, панесеныя маральныя й матар'яльныя страты да ЦК КПБ – органа, які ў час катастрофы й пасьля яе фактычна кіраваў Рэспублікаю. Прэцэдэнт падобнх іскаў у сьвеце ёсьць. Гэта іскі чатырох ангельскіх сем'яў, якія жывуць паблізу ад Сэляфільдзкае АЭС да кампаніі «British Nuclear Fuels».*

Ужо колькі разоў задавалася пытаньне, хто-ж нарэшце адкажа за тое, што здарылася на беларускай зямлі, за тыя наступствы, якія штодня нябачнай рукою насьцігаюць ня толькі дарослых, але й дзяцей, якіх ангельская газэта «Daily Telegraph» у сёлетнюю гадавіну катастрофы назвала «паддосьледнымі сьвінкамі ў лябараторыі сьмерці». Пакуль што апрача кіраўніцтва Чарнобыльскае АЭС да адказнасьці не прыцягнуты ніхто, нягледзячы на перадвыбарчыя абяцаньні многіх народных дэпутатаў БССР. Больш таго, у забруджаных раёнах, усьведамляючы скрайнюю небясьпеку наступстваў Чарнобыля, па-ранейшаму жывуць людзі, п'юць малако ад кароваў, выгадаваных на радыяактыўных кармох.

Падчас 2-га Чарнобыльскага трыбуналу, які сёлета 27 красавіка па ініцыятыве БНФ быў праведзены ў Менску, прагучала прапанова прад'явіць судовыя іскі да ЦК КПБ, на якім як вышэйшым органе тады яшчэ заканадаўча кіраўнічае партыі, ляжыць увесь цяжар адказнасьці за радыяцыйны генацыд беларускага народу. Як высьветлілася, гэтая прапанова не зьяўляецца беспрэцэдэнтнай. Ангельскія ахвяры мірнага атаму ўжо падалі судовыя іскі супраць уладальнікаў атамнае кампаніі «British Nuclear Fuels».

З 1983 у Брытанскім каралеўстве вядуцца дасьледаваньні па ўзьдзеяньні ядзерных рэактараў на здароўе людзей і, у прыватнасьці, дзяцей, якія пражываюць у населеных пунктах побач з атамнымі станцыямі. У заходняй частцы краіны, дзе каля гарадка Сэляфільд разьмешчаны атамны рэактар кампаніі «British Nuclear Fuels», спэцыяльная камісія навукоўцаў у складзе прафэсара мэдычнае статыстыкі Мартына Дж.Гарднэра, радыятэрапэўта Майкла П.Сьні, эпідэміёляга Эндру Дж.Хола, былога галоўнага лекара Сэляфільдзкага раёну Джона Д.Тэрэла, навуковых супрацоўнікаў Каралін А.Паўэл і Сьюзэн Даўнэз прааналізавала прычыны ўзьнікненьня лейкеміяў і лімфомаў сярод моладзі й дзяцей. Ангельская філія арганізацыі «Greenpeace» перадала рэдакцыі «Навінаў БНФ» дакумэнты, у якіх зьмешчаныя вынікі згаданых дасьледваньняў. У Ангельшчыне яны былі апублікаваныя 17.02.1990.

За апошнія 15 год у Сэляфільдзе рызыка ўзьнікненьня паталёгіі цяжарных павялічылася ў 7 разоў. У радыюсе 5 кілямэтраў ад Сэляфільду ў параўнаньні зь сярэдняй па Брытаніі лічбаю захворваньняў на лейкемію й лімфому колькасьць гэтых захворваньняў няспынна павялічваецца. Адна з красамоўных табліцаў, у якой улічаныя практычна ўсе фактары (ад уплыву на арганізм рыбных прадуктаў да небясьпекі, якую ўтрымлівае гульня дзяцей у полі альбо на пляжы) паказвае, што сярод тых, хто, напрыклад, вырошчваў у Сэляфільдзе гародніну й ужываў яе ў ежу, колькасьць лейкеміяў вырасла ў 20 разоў.

У дасьледваньнях прымаўся да ўвагі й такі фактар, як мейсца працы бацькоў. Было даведзена, што на іх усіх у большай ці меншай ступені радыяцыя ўзьдзейнічала на працягу 7 гадоў. Адна з самых страшных высноваў камісіі сфармуляваная наступным чынам: «Уплыў радыяцыі на генны апарат прыводзіць да мутацыі спэрмы, што робіцца прычынаю захворваньня на лейкемію яшчэ ненароджанага дзіцяці».

Калі чалавек знаходзіцца ў зоне з падвышанай радыяцыяй больш за 6 месяцаў, дык гэтая небясьпека становіцца рэальнасьцю. Павялічваецца таксама рызыка ўзьнікненьня хваробы Даўна.

Падобныя дасьледваньні праводзіліся таксама й у іншых раёнах Англіі, дзе дзейнічаюць атамныя рэактары, і паўсюль вынікі былі амаль аднолькавыя. Прычым дзеці, якія нарадзіліся ў гэтых раёнах, рызыкуюць больш чым тыя, якія прыехалі сюды пазьней і наведваюць мяйсцовыя школы.

Паводле ангельскіх навукоўцаў, крытычны пэрыяд знаходжаньня ў небясьпечных зонах – 7 гадоў.

Нядаўна ў ангельскіх газэтах зьявілася сэнсацыйнае паведамленьне пра тое, што 19 дзяцей, якія жывуць у радыюсе 20 міляў ад Сэляфільдзкага рэактара, захварэлі на лейкемію, і што іхнія бацькі маюць намер судзіцца з кампаніяй «British Nuclear Fuels» на прадмет кампэнсацыі за нанесеную здароўю дзяцей шкоду. Чатыры пацярпелыя сям'і далі інтэрвію часопісу «Observer». Вось тыповая гісторыя аднае зь іх.

Сям'я дэ Кардова пераехала на сталае жыхарства ў ваколіцы Сэляфільду. Іхняя дачка Элі памерла ў 1986 за тыдзень да свайго пятага дня нараджэньня ад лімфатычнае лейкеміі. Яна жыла разам зь дзецьмі, якія таксама хварэлі. Яе сябра Робэрт памёр за год да сьмерці Элі. Дзяўчынка была на пахаваньні, і яна радавалася, што душа Робэрта адыйшла да Бога. У сям'і ёсьць яшчэ двое дзяцей, узрост – 19 і 6 месяцаў. Містэр і місіс дэ Кардова заявілі, што ў памяць свае дачкі будуць змагацца ў судзе супроць атамнае кампаніі.

Прыблізна такая-ж гісторыя адбылася й зь сям'ёю Мар. Місіс Мар павяла свайго пяцігадовага сына Рональда да лекара з нагоды моцнага болю ног і агульнае слабасьці, якая ніяк не праходзіла. Дыягназ «рак» быў стрэсам для ўсяе сям'і. Праз тры месяцы пасьля таго, як ён быў пастаўлены, жанчына прачытала нязвыклую аб'яву ў мяйсцовай газэце «Whitehaven news»: «Калі вашае дзіцё хварэе на лейкемію, калі вы жывяце недалёка ад Сэляфільду, калі вы жадаеце падаць у суд на кампанію «British Nuclear Fuels», дык чаму-б вам не патэлефанаваць да нас?» Тэлефон належаў лёнданскаму адвакату Мартыну Дэю, які прадстаўляў ужо дзесяць сем'яў з Сэляфільду ў справе па атрыманьні кампэнсацыі. Ён – сябра камітэту «Ахвяра радыяцыі», у які ўваходзяць юрысты, лекары й навукоўцы, якія абараняюць інтарэсы пацярпелых. Пасьля таго як адвакат зьмясьціў сваю аб'яву, за кароткі тэрмін да яго зьвярнуліся яшчэ 22 сям'і.

Як адзначае часопіс «Observer», калі М.Дэй пераможа ў гэтай справе, ён трапіць у гісторыю сусьветнае юрыспрудэнцыі. Кампанія, супраць якой узбуджана справа, ужо выплаціла каля 500 000 фунтаў удовам работнікаў, якія загінулі на вытворчасьці, але ніколі ні шылінгу не дала тым, хто проста жыве побач з прадпрыемствам й падпадае пад яго нябачнае ўзьдзеяньне.

Адвакат М.Дэй зьбіраецца пачаць з чатырох сем'яў, дадзеныя якіх найбольш красамоўныя. Мэдычным экспэртам стаў ангельскі прафэсар Э.Рэтфард, які ў ЗША быў экспэртам па ўздзеньні радыяцыі й вывучаў стан ахвяраў Хірасімы. Ён мяркуе, што існуюць тры прычыны лейкеміі. Першая – ад выкідаў радыяактыўных рэчываў у атмасфэру, што непасрэдна ўплывала на людзей, ежу й напоі. Другая – непаўнацэннасьць генаў бацькоў, якія трапілі пад ўздзеньне радыяцыі. Трэйцяя прычына – непасрэдны ўплыў радыяцыі на дзяцей ад забруджанага адзеньня ды скуры бацькоў, якія не прайшлі адпаведнае апрацоўкі пасьля знаходжаньня ў зоне рэактара.

Пакуль невядома, чым скончыцца гэты працэс, але відавочна: чалавек мае права патрабаваць маральнае й матар'яльнае кампэнсацыі ад кампаніі, а ў савецкіх умовах ад ураду-манапаліста й КПБ-КПСС за нанесеную шкоду. Толькі трэба, каб знайшоўся сьмелы юрыст, які зьмесьціць сваю аб'яву ў газэце (прапануем нашую) і паспрабуе заклікаць да адказнасьці тых, хто вінаваты перад нацыяй за Чарнобыльскі генацыд.

**Тацьцяна КІРЫЛАВА,**
**кандыдат філялягічных навук.**

P.S. Рэдакцыя ўдзячная карэспандэнту лёнданскае газэты «The Times» Бобу Сілі за пасрэдніцтва ў справе атрыманьня інфармацыі.

СПРАВАЗДАЧА

# Што адбылося зь «Дзецьмі Чарнобыля»?

*У лістападзе 1990 Камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля» фактычна ня стала. Ён ператварыўся ў фонд з аднайменнай назвай. А яшчэ праз пэўны час газэты «Мы и время», «7 дней», «Славянские ведомости» пачалі патрабаваць ад старшыні фонду, народнага дэпутата БССР Генадзя Грушавога фінансавае справаздачы.*

## ВЫНІКІ ПРАКУРОРСКАЕ ПРАВЕРКІ (З ДАВЕДКІ)

Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» зарэгістраваны ў Мінюсьце БССР 20 лістапада 1990 пад №5 як грамадзкая арганізацыя.

Заснавальнікамі фонду выступілі 18 фізічных асобаў,.. а таксама Саюз кінэматаграфістаў БССР і «Мікабанк». Устаноўчы фонд не фармаваўся. Усе супрацоўнікі (актывісты) фонду ... працуюць на грамадзкіх пачатках...

Праверка дакумэнтаў на паступленьне дабрачынных грузаў, у асноўным зь Нямеччыны, паказала, што апраўдальныя дакумэнты, пачынаючы з мытнае дэклярацыі, спэцыфікацыяў, актаў прыёмкі грузаў, накладных аб перамяшчэньні й расьпісак ад атрымальнікаў каштоўнасьцяў ёсьць у наяўнасьці. Апроч таго, вядзецца кантрольная кніга, у якой пазначаецца дата й адпраўшчык грузу, характарыстыка грузу, адрас атрымальніка. Ад нямецкага боку як асноўнага адпраўшчыка дабрачыннае дапамогі ў памяшканьні фонду на вул. Старавіленскай, 14 знаходзіцца сталы прадстаўнік, які пэрыядычна зьмяняецца нямецкім бокам...

Дабрачынныя грузы, што праходзяць церазь Менск транзітам і прызначаныя насельніцтву Берасьцейскае, Гомельскае, Магілёўскае й Менскае абласьцей, разьмяркоўваюцца на мейсцах грамадзкімі фармаваньнямі фонду пад кантролем нямецкага боку...

Разам з тым, дакумэнты, што характарызуюць рух грузаў, аформленыя зрэдку неахайна, прозьвішчы канкрэтных атрымальнікаў не заўсёды расшыфраваныя, часам адсутнічае пячатка ці штамп.

У фондзе лічацца бясплатна перададзеныя нямецкім бокам: адна легкавая машына, два аўтобусы тыпу РАФ, адзін грузавы аўтамабіль, чатыры друкавальныя машынкі, шэсьць з паловаю сталоў (2,5 тыс. DM), 11 крэслаў (1,6 тыс. DM), фотакапіравальны апрат (4 тыс. DM), 5 настольных лямпаў (225 DM), відэамагнітафон «Панасонік» (1,2 тыс. DM), мэбля дзеля сядзеньня з мэталічнымі каркасамі – 7 штук (360 DM)...

Праверкаю за сакавік–травень бягучага году ўстаноўлена, што дабрачынныя грашовыя ўнёскі (ахвяраваньні) ад арганізацыяў і грамадзянаў паступілі ў суме 646.738 руб., апроч таго на ўтрыманьне фонду 20.885 руб. («Мікабанк» – 120.000 руб., НТЦ «Імпульс» – 15.000 руб., Столінскае хлебапрыёмнае прадпрыемства – 1.250 руб., СОС КІНДЭРДОРФ – 10.000 руб. – на ўтрыманьне фонду, арганізацыі КЭР (Германія), з Ульянаўску – 70.000 руб., Гародні, Мазыра – 5.000 руб., Магілёўскае абласное аддзяленьне Савецкага дзіцячага фонду – 90.000 руб. і г.д.).

Азначаныя сродкі выдаткаваныя на набыцьцё квіткоў па перавозцы дзяцей – 241.345 руб., гаспадарчыя выдаткі – 200 руб., аплату за пражываньне ў гатэлі замежных прадстаўнікоў – 4.702 руб., тэлефакс – 11.046 руб., іншыя выдаткі: бэнзін, мытня, рэгістрацыя аўтатранспарту, устаноўка сігналізацыі – 8.800 руб...

Усяго за сакавік–травень бягучага году на рахунак фонду паступіла на дабрачынныя мэты 646.738 руб., выдаткавана на гэтыя мэты 241.344 руб. (37,3%), альбо паступленьні перавысілі выдаткі на 405.395 руб.

На ўтрыманьне фонду паступіла 20.885 руб. і выдаткавана 33.061 руб. (альбо 187,3%), выдаткі перавысілі паступленьні на 12.176 рублёў. Усе азначаныя выдаткі зьвязаныя з абслугоўваньнем дабрачыннае дзейнасьці.

Фонд мае валютны рахунак у Зьнешэканомбанку СССР. Усяго на гэты рахунак за пэрыяд існаваньня фонду паступіла 23.528 інвалютных рублёў, у тым ліку 5,7 тыс. $ ЗША й 9.980 DM. ... З азначаных сродкаў выдаткавана 12 чэрвеня 1991 – 3,5 тыс. інв. руб. на аплату праязных дакумэнтаў для дзяцей з г.Ветка, накіраваных на аздараўленьне ў ЗША, і 12 ліпеня 1991 – 7,4 тыс. інв. руб. на аплату праязных дакумэнтаў для дзяцей з Мазыру й Пінску, накіраваных на аздараўленьне ў Канаду. Рэшта ў 12,6 тыс. інв. руб. лічыцца на рахунку ў банку...

За час дзейнасьці фонду (8 месяцаў) накіравана на лячэньне ў замежныя клінікі болей за 40 дзяцей дашкольнага й школьнага ўзросту. На аздараўленьне з зоны падвышанае радыяцыі з шматдзетных і малазабясьпечаных сем'яў – болей за 8000 дзяцей.

Атрымана й разьмеркавана болей за 250 тонаў дабрачынных грузаў... У лістападзе 1991 створаная пры фондзе рэвізійная камісія будзе праводзіць рэвізію.

**Гал. спэцыяліст-кансультант**
**пракуратуры г.Менску**
**А.Якаўлеў.**

## З РАШЭНЬНЯ ЎПРАВЫ БНФ (ад 24 чэрвеня 1991)

У сувязі з тым, што старшыня Камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля» Генадзь Грушавы стварыў незалежны й непадсправаздачны Сойму ды Ўправе БНФ фонд «Дзецям Чарнобыля», заняты працаю ў фондзе й фактычна спыніў выкананьне абавязкаў старшыні Камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля», лічыць паўнамоцтвы Г.Грушавога як старшыні гэтага Камітэту БНФ спыненымі.

Даручыць сябру Сойму ды Ўправы БНФ Валерыю Буйвалу каардынаваць працу па абнаўленьні складу й формаў дзейнасьці Камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля»...

13 ліпеня 1991 Сойм БНФ пацьвердзіў гэты дакумэнт, а таксама ўхваліў рашэньне аб распрацоўцы новае канцэпцыі арганізацыі, працы й дзейнасьці Камітэту «Дзеці Чарнобыля».

## КАМЭНТАР ЮРЫЯ ХАДЫКІ

Дзейнасьць Камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля» на працягу апошняга году ўсё больш скіроўвалася ў напрамку, які вызначаўся створаным пры Камітэце дабрачыным фондам «Дзецям Чарнобыля». Гэта быў збор грошай для адпраўкі дзяцей на аздараўленьне за межы Беларусі. Адыйшлі ў цень шмат якія іншыя накірункі дзейнасьці, запланаваныя ў час стварэньня Камітэту. Сп. Г.Грушавы, які адначасна ўзначальваў і Камітэт і фонд, паступова заняў пазіцыю, цалкам незалежную ад палітыкі, якую праводзіць па пытаньні выратаваньня нашага народу ад чарнобыльскае бяды Народны Фронт. Вялікая самастойнасьць, якую набыў фонд, а таксама адмова рабіць фінансавыя справаздачы перад Управаю БНФ і выклікалі гэтыя рашэньні.

Управа й Сойм БНФ лічаць неабходным вярнуцца да першапачатковае ідэі Камітэту «Дзеці Чарнобыля», дзейнасьць якога павінна быць скіраваная на актывізацыю працэсаў перасяленьня з забруджанае зоны, юрыдычную й мэдычную абарону ахвяраў радыяцыі, а не выключна толькі на кампаніях па вывазе дзяцей за мяжу.





ПОГЛЯД

Юры ТУРОНАК

# Ці быў справядлівы ў Садоме?

(Працяг. Пачатак у №4'1991)



Фотаздымак і подпіс з часопісу «Новы шлях» (№13'1943)

Імкненьне Кубэ да стварэньня рацыянальнага грунту функцыянаваньня цывільнае адміністрацыі шляхам узгадненьня інтарэсаў акупантаў і акупаваных было спрэчным з пазіцыяў Гімлера й выклікала яго вострую рэакцыю. Ён адкінуў прапанову падпарадкаваньня цывільным уладам усёй гаспадаркі Беларусі, заўважыўшы, што «спадар Кубэ, які толькі два месяцы служыў у войсках СС як вартаўнік, ня мае ўяўленьня пра салдацкія справы, пра дапамогу войску й яго забесьпячэньне». Адносна адказнасьці за зьнішчэньне й рабаваньне твораў мастацтва ягоны вэрдыкт гучаў так: «Прашу на ўсе часы спыніць з боку спадара Кубэ такое нахабства». Неўзабаве ў вачох Гімлера, СС і вэрмахту Кубэ атрымаў рэпутацыю «прыяцеля габраяў». Такім чынам, ужо ў канцы 1941 г. акрэсьлілася варожасьць паміж Кубэ й Гімлерам зь ягоным магутным ведамствам, што мела цяжкія наступствы.

Ацэньваючы дзейнасьць акупацыйнага рэжыму ў першую гадавіну яго ўтварэньня, Кубэ адзначаў, што па той прычыне, што ён атрымаў ад вэрмахту й СС толькі «малыя рэшткі гаспадаркі», асноваю яго дзейнасьці на Беларусі была рэалізацыя «заданьняў палітычных». І хоць ён меў шматгадовы досьвед у гэтай галіне, аднак, на Беларусі апынуўся перад задачаю, якую акрэсьліў як беспрэцэдэнтную (erstmalig). Край, куды накіраваў яго Гітлер, быў вельмі асаблівы: без традыцыяў нацыянальнае дзяржаўнасьці, зь няпэўнымі межамі, апрача таго, складзены з абшараў, якія ў міжваенны час уваходзілі ў склад СССР і Польшчы, з чаго вынікаў розны характар іх грамадзка-палітычных структураў. Гэтыя акалічнасьці абумовілі моцныя ўплывы расейскае й польскае культураў і слабасьць сэпаратысцкіх імкненьняў.

Кубэ невыпадкова адзначаў: «Беларусь была перад усім у літаральным значэньні гэтага слова ня больш чым імглістым паняцьцем геаграфічным». Паліцэйскія справаздачы зь Беларусі, якія ішлі ў Бэрлін, фактычна пацьвярджалі ранейшы скептыцызм Розэнбэрга адносна народнага патэнцыялу беларусаў. Невыпадкова блізкі да ведамства Розэнбэрга пэрыёдык «Deutche Post aus dem Osten» адзначаў у лістападзе 1941: «Увогуле будучыня беларускае, ці крывіцкае, нацыянальнасьці стаіць пакуль што пад знакам пытальніка, а на думку скептыкаў зьяўляецца нават цалкам няпэўнай... Трэба высьветліць, ці беларуская, альбо крывіцкая, нацыянальная праблема знойдзе цяпер сваё вычарпальнае вырашэньне».

Такім чынам, шмат што ўказвае на тое, што дзейнасьць Кубэ на Беларусі была трактаваная Розэнбэргам як палітычны экспэрымэнт, вынікі якога маглі-б быць выкарыстаныя пры вызначэньні статусу гэтага краю пасьля спадзяванае перамогі над СССР. Указвае на гэта таксама Пэтэр Кляйст, былы начальнік аддзелу Остлянд у Міністэрстве па перасяленьні з Усходу, які пасьля вайны пісаў , што заданьне Кубэ грунтавалася на «ачышчэньні» Беларусі ад расейскіх і польскіх уплываў, а таксама на чаканьні рашэньня Бэрліну, якое датычыла будучыні гэтае часткі «перадтэрыторыі» Райху. Скептыцызм Розэнбэрга ў адносінах будучыні беларускага народу й адсутнасьць зь ягонага боку канкрэтных дырэктываў давалі Кубэ магчымасьць праяўляць уласныя ініцыятывы.

У адрозьненні ад Эрыха Коха (генэральны камісар Украіны – Рэд.), які на Ўкраіне зьбіраўся кіраваць «з дапамогаю гарэлкі, махоркі й бізуна», Кубэ запэўніваў, што асаблівую ўвагу ён аддасьць «пільнаваньню» беларускае культуры. Першым ягоным нарматыўным актам у гэтай справе было выданьне 10.09.1941 пастановаў пра школьніцтва, якія ўводзілі абавязковую адукацыю для ўсіх, акрамя габрайскіх дзяцей, ва ўзросьце ад 7 да 14 год і абавязвалі мяйсцовую адміністрацыю адчыняць з 1.10.1941 пачатковыя школы з наступнай праграмаю навучаньня: родная мова, прыродазнаўства (батаніка й заалёгія), арыфмэтыка, геаграфія, сьпевы, праца, гімнастыка. Навучаньне праваслаўнай і каталіцкай рэлігіі не магло адбывацца па-за школаю. Пастановы рабілі націск на выхаваньне моладзі ў духу гітлераўскае Новае Эўропы й пагражалі суровымі карамі за выкарыстаньне школаў для распаўсюджваньня савецкае й польскае ідэялёгіі. Догляд за дзейнасьцю школаў ажыцьцяўляў генэральны камісарыят у Менску й акруговыя камісарыяты, у якіх былі створаныя беларускія школьныя інспэкцыі. На другім годзе акупацыі пачалі працаваць: сярэднія агульнаадукацыйныя школы, мэдычны інстытут у Магілёве, а таксама Беларускае навуковае таварыства ў Менску. Быў створаны Саюз беларускай моладзі (СБМ), які ў канцы акупацыі яднаў каля 100 тысячаў сяброў, была разьвітая культурная дзейнасьць, беларусізавалася адміністрацыя, цэрквы й касьцёлы. Акрамя таго, Кубэ меў намер стварыць краёвыя прадстаўнічыя органы ў выглядзе Беларускае Народнае самапомачы й Камітэту даверу.

Кубэ разумеў, што пры злачынных адносінах СС і паліцыі да цывільнага насельніцтва ў працэсе супрацьпартызанскіх акцыяў усе ягоныя пазітыўныя дзеяньні могуць мець хіба што вельмі абмежаваны грамадзкі рэзананс. З гэтае прычыны, як таксама, магчыма, з гуманістычных намераў, ён распачаў барацьбу з СС у абарону бязьвіннага насельніцтва. Ня маючы магчымасьці загадваць паліцэйскім уладам, Кубэ выяўляў злачынствы карных аддзелаў і імкнуўся інфармаваць пра іх Розэнбэрга й Гітлера, наіўна спадзеючыся на выніковасьць сваіх захадаў. З гэтай мэтаю ён скіраваў акруговым камісарам сакрэтны цыркуляр, у якім патрабаваў падрабязных зьвестак пра дзейнасьць паліцэйскіх фармаваньняў.

24.3.1943 праз райхскамісарыят Остлянд Кубэ выслаў Розэнбэргу рапарт камісара Менскае акругі Людвіка Эрэнляйтнэра, які нейкі час замяняў камісара Слонімскае акругі, дзе былі пададзеныя канкрэтныя вынікі праведзенае ў гэтай акрузе Готбэргам пацыфікацыйнае акцыі «Гамбург–Альтона». У рапарце гаварылася пра вынішчэньне й вывязеньне ў Райх вясковага насельніцтва й сьцьвярджалася, што акцыя аказалася беспасьпяховаю, бо на «супакоеных» абшарах партызанскі рух ня толькі аджыў; але й узмацніўся за кошт таго, што ў шэрагі партызанаў уліліся ахопленыя жахам людзі. Тым самым Эрэнляйтнэр пацьвердзіў меркаваньне Кубэ, што адны паліцэйскія акцыі ня ў стане вырашыць праблему партызаншчыны. Гэта быў, бадай, першы рапарт такога роду. Ён выклікаў вялікую заклапочанасьць сярод чыноўнікаў райхскамісарыяту Остлянд – яго разглядалі амаль два месяцы ў «чатырох розных установах» й мелі намер нават вярнуць яго Кубэ, і толькі ў выніку рашэньня райхскамісара Лёзэ рапарт у канцы траўня быў перасланы ў Бэрлін.

Рапарт Эрэнляйтнэра распачаў сэрыю абвінавачваньняў СС у злачынным стаўленьні да мірнага насельніцтва. На падставе рапартаў, якія складаліся, між іншым, працаўнікамі генэральнага камісарыяту ў Менску, Кубэ паведамляў вышэйшым уладам канкрэтныя факты. Паводле аднаго зь іх, у якім была выкарастаная інфармацыя Юліяна Саковіча, камэнданта беларускае паліцыі ў Менску, Кубэ дакладваў пра выпадкі, калі карныя аддзелы зганялі жыхароў вёсак у дамы й спальвалі жывымі. Прыводзіў таксама выпадкі, калі ў шпіталі ў пошуку мэдычнае дапамогі даставіліся недастрэленыя людзі, якія выбраліся з магілы. Шматразова зьвяртаўся ў сувязі з акцыяй «Котбус». 5 чэрвеня паведамляў, што сярод 5000 забітых па прычыне супрацоўніцтва з партызанамі шмат жанчын і дзяцей, што прыводзіць да катастрафічных палітычных вынікаў. 29 чэрвеня, маючы ўжо поўныя вынікі гэтае акцыі, Кубэ пісаў Розэнбэргу, што пад час яе было забіта 13000 «ворагаў», пры гэтым здабыта толькі 950 вінтовак, з чаго рабіў выснову, што 90% гэтых «ворагаў» наогул ня мелі зброі.

«Прапаную, – пісаў Кубэ да Лёзэ яшчэ 3 чэрвеня, – папрасіць міністра акупаваных усходніх абшараў прадставіць гэтую справу ў Галоўнай кватэры Фюрэра. Калі такія, як дагэтуль, адносіны да мяйсцовага насельніцтва будуць працягвацца, і ня толькі з боку паліцыі, але й з боку вэрмахту й карных аддзелаў, дык у наступную зіму мы можам чакаць ня толькі партызанаў, а бунту ва ўсім краі». У іншым лісьце ад 14 чэрвеня Кубэ ўказваў на адказнасьць фон Готбэрга як кіраўніка пацыфікацыйных акцыяў, якія, маючы катастрафічныя палітычныя й эканамічныя вынікі, ня толькі не спрыяюць зьмяншэньню партызанскага руху, але, наадварот, спараджаюць ягоны рост.

У абарону насельніцтва выступіў таксама Камітэт даверу, які сабраў факты рэпрэсіўнае дзейнасьці карных аддзелаў ва ўсіх акругах Генэральнага камісарыяту Беларусі й сярод іх рапарт палкоўніка Францішка Кушаля аб ходзе пацыфікацыйнае акцыі «Герман» у Пяршайскай гміне Валожынскага павету ў другой палове ліпеня, пад час якой былі спаленыя жывымі, разам з пабудовамі, жыхары дзесяці вёсак.

23.08.1943 падчас скліканай Кубэ сумесна зь нямецкімі цывільнымі й паліцэйскімі ўладамі сэсіі, Камітэт даверу прадставіў гэтыя факты, пратэстуючы супраць падобных дзеяньняў карных аддзелаў. Адначасова Камітэт зьвярнуўся да нямецкіх уладаў з просьбаю аб:

1) спыненьні спальваньня вёсак і рэпрэсаваньня бязьвіннага насельніцтва;

2) стварэньні ўмоваў вяртаньня людзей зь лясоў дадому й рэальных гарантыяў, што да іх ня будуць ужытыя рэпрэсіі;

3) утварэньні супольнае нямецка-беларускае камісіі, задачаю якой была-б выпрацоўка рэкамэндацыяў у гэтай справе й кантроль за іх выкананьнем.

Паводле ўспамінаў Аўгена Калубовіча, былога сябра Камітэту даверу й удзельніка гэтае сэсіі, пратэст і прапановы Камітэту выклікалі абурэньне сярод удзельнікаў-немцаў. «За сталамі кіраўнікоў службы бясьпекі, а яшчэ больш афіцэраў войскаў СС, ахоўнае паліцыі й жандармэрыі, – пісаў А.Калубовіч, – узьняліся крыкі, шум і пратэсты абурэньня. Калі Аляксандар Русак (у канцы 1943 быў бурмістрам Баранавічаў і адначасна дырэктарам сярэдняе гандлёвае школы ў Баранавічах – Рэд.) скончыў свой даклад і перадаў генэральнаму камісару Кубэ дакладную запіску, выступіў генэрал Цэнэр, спрабуючы апраўдаць карныя акцыі супраць вёсак. Мы зьдзівіліся, калі Кубэ, насуперак генэралу Цэнэру, пачаў апраўдвацца перад Камітэтам даверу, даказваючы, што ён не нясе віны, за гэтыя расправы над насельніцтвам, што іх чыняць незалежныя ад яго органы, і што ён, як быццам, пра гэта накіраваў рапарт у Бэрлін. Нашыя апасеньні, што Камітэт даверу арыштуюць, ня спраўдзіліся. В.Іваноўскаму (адзін з пачынальнікаў беларускага руху XX ст.; прафэсар, зь лістапада 1941 – бурмістар Менску – Рэд.) не прыйшлося чытаць Дэклярацыю незалежнасьці, якая знаходзілася у нутранай кішэні яго пінжака (яна была спэцыяльна падрыхтаваная на выпадак арышту сяброў Камітэту – Ю. Т.). Але доўгі час не пакідала нас думка, што немцы могуць яшчэ расправіцца з намі... Мы таксама не выключалі мажлівасьці, што органы СД і СС не даруюць і Кубэ».

Працяг будзе.

ФОТАКРОНІКА



Школьнікі.



Рэйкавая вайна.



Саюз Беларускай Моладзі.



Беларускія паліцыянты.



У партызанскім атрадзе.



У акупаваным Менску.

Фотаздымкі зь Дзяржаўнага архіву кінафотадакумэнтаў БССР.

